# Варункі працы і культура масаў.

Адзін з найвыдатнейшых францускіх драматычных крытыкаў, Адольф Брыссон, напісаў для варшаўскага тыднёвіка „Świat“ стацьцю аб францускім тэатры пасьля вайны.

Мо‘ каму пакажацца дзіўным, што мы—ў беларускай народнай газэце — займаемся справай францускага тэатру? Дык-жа не аб тэатры наагул будзем тут гаварыць, а падамо толькі малы адрывак стацьці францускага публіцыста, які — у сувязі з тэатрам — зачапляе адну з найглыбейшых праблемаў *культуры: аб учасьці ў здабычах яе працоўных масаў у залежнасьці ад лепшых заробкаў і 8-гадзіннага дня працы*.

* * *

У сучасным францускім тэатры—кажа Брыссон — у таўпе можна такжа бачыць *вельмі многа работнікаў*.

Аднэй з найбольш характэрных адзнакаў сучаснасьці зьяўляецца *культурны пад‘ём пралетарыяту*. Людзі, якія зарабляюць на хлеб цяжкой працай сваіх рук, ужо не зьяўляюцца дзікунамі.

Маючы *добрыя заробкі*, значная часьць іх карыстаецца вольнымі часінамі, *якія забясьпечывае ім 8-гадзінны рабочы дзень*, дзеля таго, каб вучыцца, разьвіваць свой розум, пракладаць дарогу да інтэлектуальнага жыцьця.

Гэтак сярод народных масаў нарастаюць *новыя грамадзкія выбранцы*, багатыя новымі сіламі. Гэтак родзіцца Францыя *заўтрашняга дня*!

* * *

Так,—піша „Spólnota“, — сказаў культурны эўрапэец, — не работніцкі дзеяч, не сацыяліст, а толькі безстаронны дасьледчык францускага жыцьця.

„Якімі-ж крывадушнымі, раўнуючы да гэтых простых і шчырых слоў, выглядаюць пустыя фразы польскіх „патрыатычных“ прамыслоўцаў аб неабходнасьці зьмяншэньня заробкаў і павялічэньня рабочага дня ў імя культуры, ў імя будучыны Бацькаўшчыны!“

* * *

Малыя заробкі, праца праз увесь доўгі дзень, сярод якое работнік перастае быць чалавекам і стаецца нейкай бяздушнай часткай машыны, — вось ідэал сучаснай Польшчы *учорашняга дня*...

### Паўстаньне ў Грузіі ня спынена?!

Нямецкія газэты падаюць, што грузінскія паўстанцы занялі Тыфліс і атакуюць Батум. Як гэта пагадзіць з афіцыяльным камунікатам аб ліквідацыі паўстаньня?

### На абарону Грузіі.

Пасол Рэнодэль (сацыяліст) зьвярнуўся да Эрыо з просьбаю зрабіць усё магчымае, каб спыніць тое праліцьцё крыві, што йдзе ў Грузіі, якая вядзе барацьбу за сваю незалежнасьць.

### Хатняя вайна ў Кітаі.

Спадзяюцца, што Манчжурская армія ўжо ў прышлым тыдні заатакуе Пэкін.

### Падзяка кітайцаў.

Прадстаўнік Кітаю ў Маскве Лі-Цзао-Ао зрабіў візыт у Камісарыят Загранічных Спраў і ад імя Кітайскага народу падзякаваў ураду і грамадзянству СССР за помач, аказаную Кітаю ў такі цяжкі мамэнт, калі пагражае ўмяшацельства дзяржаў у ўнутраныя справы Кітаю.

Ён заявіў, што кітайскі народ будзе заўсёды памятаць аб так цэнных для яго ў сучасны мамэнт кроках СССР.

### Генаральнае адступленьне гішпанскіх войскаў у Марокко.

З Лісабону наказуюць, што гішпанскія войскі пачалі генаральнае адступленьне. Галоўная група ўрадавых войск акружана паўстанцамі...

Вось рэзультаты „крэсавай“ палітыкі гішпанскага генаральскага ўраду.—Не памаглі „hiszpańskiej racji stanu“, але — якраз наадварот — хутчэй усяго патапілі яе—тыя самыя генаралы, якіх цяпер... і ў сябе дома народ пачне гнаць...

# Што робіцца у Кітаі?

Каб зразумець хаця крыху тое, што робіцца ў Кітаі, трэба ведаць, што Кітай ужо даўно фактычна ня **мае дзяржаўнага адзінства** і цэнтральнай улады, але распаўся на **тры часткі**, якія ня толькі ня маюць моцнай сувязі, але, наадварот, варожа адносяцца адна да аднэй.

У Манчжурыі, на паўночным усходзе Кітаю, сядзіць за гаспадара ваенны губэрнатар, багатыр Чан-Су-Лін, які мае моцную армію з камандай, зложанай пераважна з былых расейскіх афіцэраў. Зразумела, што гэтая **рэакцыйная** манчжурская ўлада варожа адносіцца да бальшавікоў і Радавай Расеі.

У Пэкіне, „сталіцы“ ўсяго Кітаю, знаходзіцца бязсільны **дэмакратычны** ўрад сучаснага прэзыдэнта Кітайскай Рэспублікі Цаў-Кун. Армій гэтага

Улады гэтага цантральнага ўраду не прызнаюць ні паўночная Манчжурыя, ні паўдзённы Кітай, дзе, у Кантоне, сядзіць **трэці** валадар Кітаю—павадыр **радыкалаў-нацыяналістаў**, знаменіты Сун-Ят-Сэн, які вельмі прыхільна адносіцца да СССР, маючы ў асобе бальшавіцкага ўраду магутнага саюзьніка ў дасяганьні тэй вялікай задачы, якую паставіў сабе Сун-Ят-Сэн: **вызваліць Кітай з няволі ў эўрапэйцаў**. Армія гэтага Паўдзённага Кітаю знаходзіцца ў цесным кантакце з радавым урадам, які — чым толькі можа — памагае ёй, каб стварыць з яе магутны баявы орган у барацьбе за незалежнасьць народу.

Тая барацьба, што вядзецца цяпер пад Шанхаем, ідзе паміж правінцыямі Кіянг-Су, належачай да Пэкінскага цэнтру, і правінцыяй Чэ-Кіянг, якая падпкрадкавана Сун-Ят-Сэну. У апошнія дні, як мы падавалі, апрача вайны пад Шанхаем, пачалося наступленьне на Пэкін Манчжурскага губэрнатара, які аб‘явіў вайну цантральнаму ўраду.

І вось, вельмі важна, што абодва галоўныя цэнтры эўрапэйскага засільля ў Кітаі—Шанхай і Пэкін—адначасна заатакаваны—першы „чырвонай“ арміяй Сун-Ят-Сэна, другі—„чорнай“ арміяй Чан-Су-Ліна...—Ясна, што абодва крайнія лягеры аб‘яднала адзіная ідэя — барацьбы за вызваленьне Кітаю.

Ужо з гэтага можна зразумець, які агромны размах мае тое, што пачынаецца ў Кітаі!.. Лёгка зразумець і тую вялікую ролю, якую йграе ў-ва ўсей гэтай грандыознай справе радавы ўрад...

Калі да гэтага дадаць, што манчжурскую армію, як можна думаць, падтрымліваюць японцы, і што гэткім чынам стварыўся быццам **адзіны фронт Расеі, Кітаю і Японіі проці Эўропы**, дык запраўды „плянэтарны“, як любяць выражацца бальшавікі, характэр усяе пачаўшаеся барацьбы **Азіі проці „Эўропы“** будзе для нас зусім ясны...

Калі Японія ня „здрадзіць“ азіяцкай справы, дык можна напярод прадбачыць рэзультаты барацьбы. Эўропа можа мець перавагу толькі на моры і з мора, што зусім ня страшна Кітаю. Але ніводная з вялікіх дзяржаў не асьмеліцца паслаць у Кітай сухапутную армію. Дый ня пойдуць цяпер ваяваць народы, а тым больш—на „пакарэньне“ другога народу, бо-ж гэта—абсурд!

З другога боку, радавы ўрад можа вельмі лоўка выкарыстаць азіяцкія падзеі дзеля свае эўрапэйскай палітыкі, паказаўшы Эўропе і Амэрыцы сваю моц, калі не ў Эўропе, дык у Азіі!.. І з гэтага боку кітайскія падзеі маюць сусьветнае значэньне, бо могуць адбіцца на ўсей сусьветнай **палітыцы**, разваліўшы нават... і Вэрсальскі Трактат!

Недарма-ж, як падалі газэты, дальназоркая Англія быццам ужо заявіла, што выходзіць зусім з пачаўшайся інтэрвэнцыі ў Кітаі і будзе **зусім нэйтральнай** у тэй **барацьбе** за вызваленьне, якую пачаў Кітай.

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаушы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнау прауду аб жыцьці свайго народу і даведауся, што робіцца на сьвеце!***

# Катаваньне беларускіх вучняў.

У сваім часе мы падавалі вестку аб арышце ў Дунілавіцкім павеце двух вучняў VII клясы Віленскае Беларускае Гімназіі, Кузьмы Янэля і Лявона Бабровіча. Цяпер яны ўжо на волі і прыехалі ў Вільню. Вось што яны расказалі нашаму супрацоўніку аб тым, як з імі обыходзіліся ў часе арышту:

— „У суботу 16 жніўня г. г. прыехалі ў нашу вёску Мыцкі, Мядзельскае воласьці, Дунілаўскага павету, два вывядоўцы і кіраўнік пастарунку паліцыі з двума паліцыянтамі, прозьвішчаў якіх ня ведаем. Як толькі мы вярнуліся з палявое працы, паліцыя загадала нам ня выходзіць з дому да 10 гадзіны раніцы ў нядзелю, самі-ж паліцыянты, заехаўшы да лясьнічага, які жыве ў нашай вёсцы, відаць, усю ноч банкетавалі, бо ў нядзелю а 10 гадзіне зраньня прышлі да нас п‘яныя і распачалі рэвізыю, падчас якое знайшлі і забралі з сабою: 1) у Янеля — адзін экзэмпляр нумару газэты 4 „Сын Беларуса“ і фатаграфію яго дзядзькі; 2) у Бабровіча — ягоную фатаграфію і сшыток з лацінскімі славамі.

„Па рэвізыі нас арыштавалі і павялі пеша ў м. Мядзёл, што ў 17 кілям. ад нашае вёскі. Пераначаваўшы ў Мядзёле ў арышце на голай ды бруднай падлодзе, нас зноў пагналі пеша ў м. Дунілавічы, што ў 35 клм. ад Мядзёла, дзе спачатку нас пасадзілі ў вастрог ў камару супольча з крыміналістамі, а потым павялі на дапрос у павятовую каманду паліцыі, дзе і катавалі рознымі спосабамі, як напрыклад: загадаўшы нам перш раззуцца, скавалі нам рукі і, залажыўшы іх за калені, устаўлялі палку паміж рук і ног, пасьля чаго пераварочвалі ніц і білі ў пяты нейкай валавянай булавой, так моцна, што ажно ў мазгі калола і трацілі прытомнасьць. Па гэтай апэрацыі таптаці нас нагамі, білі па твару і галаве, а потым пакідалі на тры гадзіны ў супакоі, каб апрытомнець, пасьля чаго пачынаўся той самы зьдзек ды катаваньне. З дапросу нас ізноў укінулі ў вастрог і, пратрымаўшы там два дні з закаванымі ў кайданы рукамі і нагамі, адправілі пеша на ст. Рапаева, адкуль ужо цягніком павязьлі перш у Вялейку, а потым так сама закаванымі адправілі ў Маладэчна да Судовага Сьледаваццеля, які, прызнаўшы, відаць, нас нявіннымі, звольніў.

„Найбольш біў ды зьдзекаваўся над намі кіраўнік паліцыі Дунілаўскай каманды нейкі Мацковяк“.

Абураны да глыбіні душы гэтым страшэнным апавяданьнем, наш супрацоўнік зьвярнуўся да Дырэкцыі Віл. Бел. Гімназіі з запытаньнем, што яна зрабіла, каб вывясьці гэту дзікую справу на сьвет божы і дабіцца кары на злачынцаў? На гэта Дырэктар Гімназіі адказаў, што ім ужо дадзены ход гэтай справе: ён перадаў копію заявы вучняў Шэфу Бясьпечнасьці пры Дэлегатуры Ураду, п. Дваракоўскаму, які абяцаўся ўраз-жа учыніць належныя крокі, каб пакараць вінаватых у гвалтах паліцэйскіх.

Будзем чакаць спаўненьня абяцанкі!

# ХРОНІКА.

**Чародная канфіскацыя „Сына Беларуса“.** Па загаду п. Камісара Ураду на м. Вільню паліцыя сканфіскавала № 40 „Сына Беларуса“ з 14 верасьня г. г.

Маючы сумную практыку, што прэсавы аддзел Камісарыяту Ураду неаднакроць не даваў адказу Рэдактару нашае газэты, за што яна сканфіскавана, і адсылаў да п. Пракурора, у якога аб гэтым можна даведацца,—гэтым разам Рэдакцыя папрасіла п. Пасла Тарашкевіча выясьніць у прэсавым аддзеле прычыну канфіскацыі.

Аднак і п. Пасла спаткаў той самы лёс: яму прэсавы аддзел адмовіўся даць выясьненьне, адказаўшы, што няхай прыйдзе сам Рэдактар...

**Водгукі выхаду беларусаў з „Вызваленьня“.** Паслы Бальлін, Рагуля і інш. падалі інтэрпэляцыю да Міністра Унутраных Спраў з прычыны канфіскацыі камісарам ураду на м. Варшаву дэклярацыі паслоў-беларусаў Бальліна і Шакуна пад загалоўкам „Dla czego wyszliśmy z Wyzwolenia“.

Зьмест—той самы, што і ў друкаванай у нас пабеларуску дэклярацыі гэтых паслоў.

**„Pour la libertè des peuples opprimès par la Pologne“** („За волю ўціснаных Польшчай народаў“). Пад такім загалоўкам выйшла ў Парыжу кніжачка, выданыя Украінска-Беларуска-Літоўскім Камітэтам. У кніжачцы зьмешчаны, апрача прадмовы, тры рэчы: „Пратэст проці белага тэрору ў Польшчы“, падпісаны выдатнейшымі дзеячамі Францыі з Пэнлевэ і Эрыо на чале; артыкул Віктара Баша „Белы тэрор у Польшчы“, надрукаваны ў газэце „l‘ Ere Nouvelle“; „Прызыў да цывілізованага сьвету“, падпісаны ад імя ўкраінцаў—д-рам М. Лозінскім, ад імя беларусаў—В. Ластоўскім і ад імя літвіноў—Л. Вайліонісам.

**Урад Беларускага Навуковага Т-ва** атрымаў для музэю ім. Ів. Луцкевіча гэткія рэчы:

1) ад грам. Андрэя Панкевіча з Даўгінава — 17 манэт і акамянеласьць;

2) ад грам. Вульфа Сосенскага з Даўгінава— 5 манэт.

Усе манэты знойдзены ў Даўгінаве і ваколіцах.

Урад Т-ва просіць перdesignated праз газэту гэтым грамадзянам шчырую сваю падзяку.

# Пісаньне мэтрык у праваслаунай царкве і беларуская мова.

Не варочаючыся назад у часы гістарычныя, калі мова беларуская бязумоўна была мовай гаспадарственай і ужывалася ў-ва ўсіх установах Беларуска-Літоўскай Дзяржавы, будзем гаварыць толькі аб сучасным мамэнце, калі мова наша хвалямі жыцьця паднята да прызнаньня яе ў Польскім Сойме і Сэнаце — роўнапраўнай мовай на Крэсах. Гэта мусіць адбіцца і ў тых установах, у

